# Самапомач
# Samapomač

*Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс*

**Год VII. Вільня, Верасень 1938 г. № 9 (83).**



*Аб чым піша «Самапомач»:*


| | | *бач.* |
|---|---|---|
| 1. | Хрысьціянская фірма". . . . | 98 |
| 2. | Саюз з добраю кніжкаю. . . | 100 |
| 3. | Z Vilni ŭ Stolin. . . . . . . . | 100 |
| 4. | Што будзе з лёнам? . . . . | 101 |
| 5. | Вапнаваньне. . . . . . . . . | 102 |
| 6. | Жыта на бульбянішчы. . . . | 104 |
| 7. | Калі і як прыворываць зялёныя гнаі. . . . . . . . . . . | 104 |
| 8. | Гэская і швэдзкая мухі — | 105 |
| 9. | Суслы. . . . . . . . . . . . | 106 |
| 10. | Падатак ад мукі і круп. . . . | 107 |
| 11. | Гаспадарская ўсячына . . . . | 107 |
| 12. | Гаспадарская хроніка . . . . | 108 |
| 13. | Садоўніцкая чытанка (ўкладка). | |




Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул. 1.

# „Хрысьціянская фірма“

*(Чым мае быць селянін: пальцам між дзьвярэй ці язычком у вагі?)*

Барацьба за кусок хлеба ня спыняецца і на мінуту. Асабліва аднак завастраецца яна ў нас з пачаткам кожнага школьнага году, калі ў месты, мястэчкі і наагул у большыя гандлёва-культурныя цэнтры прыходзе і прыяжджае больш людзей з ашчаджаным грашом. Так ёсьць і сёлета. У гэтай барацьбе ня было-б нічога дзіўнага, калі-б яна вялася на роўных для ўсіх правох, а галоўнае каб людзкая прагавітасьць, засланяючы свае чыста, ці лепш сказаць, брудна скурныя меркаваньні, не карысталася і не таптала ў гразь усё, што на сьвеце ёсьць найдаражэйшае, найпрыгажэйшае.

Бо й што-ж сапраўды дзеецца сягоньня, пачаўшы ад галоўных местаў, і канчаючы апошняй глухой вёскай? Усяго ня сьпішаш і на валовай скуры; таму здаволімся малой толькі выбаркай здарэньняў апісаных у штодзенных газэтах першых дзён м-ца верасьня сёл. Вот-жа, у імя самага толькі здабыцьця пакупцоў на розную вопратку, абутак, школьныя кніжкі і прыладзьдзе (называецца гэта „ународовенем гандлю“!):

1. у Вільні „фалянгісты“, а ў Лідзе озонаўцы разнасілі свае лістоўкі (газэты). Дайшло пасьля да вулічных боек паміж жыдамі і няжыдамі. Характэрна пры гэтым, што калі ў Лідзе 31.8 сёл. дзьве кабеты не хацелі гэтых лістовак прыймаць, дык озонаўцы пабілі іх, а самі пусьціліся наўцекі. Паліцыя аднак іх злавіла.

2. У першых днях верасьня Віленская паліцыя арыштавала аж трох за раз эндэцкіх дзеячоў (адзін з іх — сэкрэтар эндэцкае — Stronnictwo Narodowe — партыі ў Зьвярынцы). Газэты пішуць, што арыштаваным закідаецца шантажаваньне жыдоўскіх крамаў; арыштаваныя абыходзілі жыдоўскія крамы і, пагражаючы быццам пабіцьцём вакон і разграбленьнем крамаў, дамагаліся выкупу грашмі.

3. Ведама, да якіх дзікіх сцэнаў у адносінах да тых-жа жыдоў даходзіла ў Астраўцы пад Вільняй, у Шумску, у Мэйшаголе ды ў шмат іншых мясцох, дзе загнезьдзілася эндэцкая партыя.

4. У Лаварышках пад Вільняй у канцы мін. месяца адбывалася кананічная візытацыя мясцовай каталіцкай парахвіі. Падчас калі арцыбіскуп выконываў усе касьцельныя цэрэмоніі, калі прыездны прамоўца гаварыў аб мэтах і заданьнях Каталіцкай Акцыі, мясцовыя і прыездныя эндэкі ўсім насільна растыцківалі свае палітычныя лістоўкі, а пасьля пікеталі жыдоўскія крамы (ня пускалі ў гэтыя крамы людзей). — І што дзіўнога, калі пры гэткіх варунках

5. адзін віленскі жыдоўскі гандляр, ня могучы заманіваць да сябе людзей надпісам „хрысьціянская фірма“, уздабыўся на помысл выставіць у сваім акне хрысьціянскі абраз Маці Божай?

Усё гэта, паўтараем, незапярэчаныя факты, узятыя з Віленскіх штодзенных газэт. Паказваюць яны, што:

1. Усе стараньні „ународовеня“ накіраваныя на выключную ка-

рысьць самых толькі няжыдоўскіх крамнікаў.

2. Усе іншыя кругі насельніцтва Краю, а перад усім сялянства, з гэтай нагонкі ня маюць ніякай карысьці, а наадварот, церпяць шкоду, бо: *а*) плацяць у няжыдоўскіх крамах (*хрысьціянскімі* назваць іх ня можам!) часта даражэй як у жыдоўскіх, *б*) успамагаюць ужо існуючую і штучна твораць новую, тымбольш непрадуктыўную, касту пасярэднікаў-гандляроў і *в*) адварочваюць увагу ад паправы магчымай толькі пры помачы праўдзіванезалежнай коопэрацыі;

3. На ўслугах маламястэчкавых і гарадзкіх крамнікаў стаяць і бароняць іх польскія эндэкі ўсякай масьці і озонаўцы і, што можа тут для нас найважнейшае, безцэрэмоніяльна **ўпрагаюць у службу сабе хрысьціянства**, аграбаючы за гэта незаслужаныя карысьці. —Урэшце сьцьвердзіць трэба, што

4. Афіцыяльныя ў нас прадстаўнікі хрысьціянства дагэтуль так паступаюць, як быццам усяго гэтага ня бачаць ці не разумеюць. А тымчасам у акне кожнай блізу прыватнай няжыдоўскай крамы вісіць прыманка ў форме таблічкі з надпісам „Firma chrześcijańska“, (ці нешта падобнае), за каторай можа хавацца як-жа нехрысьціянская(!) прагнасьць нажывы

Ня нашым заданьнем ёсьць бараніць само хрысьціянства ад пагрозы скажэньня. Затое з усей станоўчасьцю мусім сказаць, што заганяньне сялян у крамы „хрысьціянскія“ ёсьць найчасьцей надужываньнем добрай веры гэтых сялян у гандлёвай разыгрыўцы паміж чужымі ім крамнікамі, як жыдоўскімі, так і няжыдоўскімі.—На добры лад „дзе двух дзяруцца, там трэці карыстае“. Але тут так пастаўлена справа, што гэты „трэці“ ўсё мусіць аплаціць. А ці гэта варта? І ў імя чаго? Бо і хто-ж заручыць, што лёс „хрысьціянскага“ гандлю, які нарадзіўся з таго самага жарала, што і „страганы“, не пачне хутка так корчыцца, як корчацца і нікнуць гэтыя-ж „страганы“. У Вільні яны нікнуць, а на вёсцы сяляне аб іх і слухаць ня хочуць. Напр. калі на вечы ў Рудзішках пад Вільняй пасолка Прыстарыха анагдай хацела гаварыць аб страганах, дык сяляне, зразумеўшы „панскае замаўляньне зубоў“, так доўга дамагаліся „Гавары пані аб зямельнай рэформе, нашто нам галаву а сабе язык мазаліць страганамі“ — аж покуль п. пасолка змоўкла і пакінула ня толькі сход, але і само негасьціннае для яе мястэчка.

Ці гэтага самага хочуць дачакацца натхніцелі гэтак званага хрысьціянскага гандлю?

Паўтараем, мы вельмі шчыра вітаем самую думку навучэньня нашага чалавека пагандлёваму думаць і паступаць, але рашуча кажам, што сам спосаб дагэтуляшні ёсьць кепскі. Што-ж датыча нашых сялян, дык ім патрэбны перад усім: асьвета — агульная і фахова-земляробская. Тады самі яны зразумеюць, што для дабрабыту іхняга патрэбна справядлівая зямельная рэформа, патрэбна не павялічэньне лічбы крамнікаў, а наадварот, паменшаньне яе на карысьць добра сарганізаванай коопэрацыі. Пакуль-жа існуе гандаль ці промысел прыватны, асабліва чужы, дык месца селяніна там, дзе гэта яму выгадней.

*Сам Хрыстос гнаў гандляроў з сьвятыні.*

# Саюз з добраю кніжкаю.

У полі астаюцца йшчэ тры работы: выкапаць рэшту бульбы, кончыць сеяць і канешна глыбака заараць поле на зіму. Але гэта ані колькі ня знача, каб пасьля можна было гультаваць. Зусім не. І далей прыходзе праца, толькі іншая, можа цяжэйшая ад дагэтуляшняй. Таму прыгатаўляцца да яе трэба наперад, ужо цяпер.

Усе культурныя народы такое прыгатаваньне да жыцьця на будучыню чэрпаюць з асьветы: з сваіх арганізацыяў, з кніжак, часапісаў, лекцыяў і іншых культуных жарол.

Дзе ўсё гэта ў селяніна беларускага?

Падробна апісваць гэтага тут ня будзем. Скажам коратка: усе беларускія школы пазачыняны, два гады як пазачыняны беларускія арганізацыі. Ёсьць сёе тое з беларускага друкаванага слова: ёсьць кніжка, ёсьць адзін—другі часапіс. Ведаем, якая далёкая і цяжкая дарога гэтага друкаванага слова на беларускую вёску. Але дарога гэта ўсё-ж ёсьць. І яе трэба трымацца; **кніжку і часапіс** трэба выкарыстаць, бо гэта сьветачы да лепшага жыцьця. Ня трэба на гэта адрывацца ад хаты, ад штодзенных абавязкаў, і працы. Кошт — таксама невялікі, асабліва, калі карыстацца такімі кніжкамі ў складчыну.

Найважнейшае аднак, чаго ня раз не хапае, гэта **давер кнізе**. Бо ахвота да чытаньня ёсьць. Не заўсяды аднак наш чалавек вера таму, што прачытаў. І дзівіцца з гэтага няма чаго. Інакш быць ня можа, бо большасьць таго (калі ня ўсё), што з-за кожнага вугла сягоньня сунуць беларусу, гэта-ж пісана не на нашу мерку, не на нашы варункі. Чалавек інстынктоўна гэта чуе і да гэтага ня толькі ня хінецца, але ад яго бароніцца. Школа-ж несвая, праз якую прайшло наша маладое пакаленьне, больш як „чытаць-пісаць“ не навучыла. А што-ж гаварыць аб тым, каб школа прывучыла гадунца бачыць у кнізе свайго заўсёднага вучыцеля і дарадчыка і з кнігі гэтай чэрпаць адказы на ўсе жыцьцёвыя пытаньні? Ад гэтага, так натуральнага, ідэалу, мы ў сяньняшніх варунках яшчэ далей.

Дык што-ж астаецца рабіць?

На гэта пытаньне маем два адказы:

1. усіх тых, што так часта самі зьвяртаюцца да нас з прапановамі су-

---

# Z Vilni ŭ Stolin

*Uražańni z padarožy aŭtamabilem.*

Miesta Stolin uvažajecca sercam Paleśsia. Redaktar „Tyg. Roln.“ p. R. V. zaparam u troch numaroch svajho časapisu cikava apisvaje svaje ŭražańni z pajezdki aŭtamabilem uhłyb Paleśsia ŭ lipni m-cy sioł. Z hetaha apisańnia pazvalajem sabie začerpnuć niekatoryja miascy, jakija, dumajem, pavinny cikavić i čytača—biełarusa. Ciesnyja ramy „Samapomačy“ nie pazvalajuć na tłumačeńnie cełaści apisańnia i zmušajuć karystacca im tolki jak matarjałam. — red.

Daroha aŭtora ŭražańniaŭ u Stolin z Vilni viała praz: Lidu, Navahradak, Śvitaź, Baranavičy, Miadźviedzičy, Hancavičy, Chacieničy, Zabiareźzie, Bahdanaŭku, Łuniniec, Łachvu (na poramamie praz Prypieć), Davidharadok, Mańkavičy i Stolin. Raŭniajecca heta 400 klm. Pavarotnaja daroha była inšaja i viała praz: Dvarec (kala Łuninca), Dziatłavičy, Čučavičy, Čudzin, Budču, Zaastrovičy, Klecak, Snoŭ, Haradzieju, Mir, Turec, Kareličy, Usielub, Iŭje, Subotniki (Žemasłaŭje) — Vilnia; heta daroha była blizu trejčy daŭžejšaja, bo rachavała až 1.100 klm. — Prajechaŭšy hetki prastor aŭtor zaŭvažyŭ i apisaŭ roźnicu spatykanaje hleby, klimatu i raślinnaści: piaskom Vilenščyny suproćstaŭlaje lohkija da abrablańnia, uradžajnyja lössy Navahradčyny i Niaśvižčyny. Kali 14, 15 lipnia ŭ Stolinskim i Łuninieckim paviecie ŭžo kančałasia žnivo, dyk 18 i 19 lipnia ŭ Vilenščynie jašče žyta było zialonaje. Žyta Vilenščyny i pšanica Navahradčyny, na Paleśsi pierachodziać u prosa, plantacyi ahurkoŭ, dyniaŭ, kukuruzy, fasoli. Na cełym prastory ad Vilni da Stolina jość ślady sioletniaj sušy: na zbožy jaravym i na sienakosach, jakija sioleta apaźnilisia.

Dla charakterystyki paniaćciaŭ ad Paleśsia da Navahradka aŭtor zaznačaje, što tam u niadzielu ludzi (mužčyny i kabiety) pracujuć na sienažaci.

Darohi na prajechanym abšary naahuł pradstaŭlajucca dobra, a na Paleśsi navat i vielmi dobra. Varta zaznačyć ad-

# Што будзе з лёнам?

Аднастароньняя прапаганда гадоўлі лёну як выгоднага *рыначнага тавару*, давяла да таго, што мы прадбачылі ўжо даўно: да награмаджэньня запасаў, якія ўжо ляжаць бяз ужытку і якія далей будуць павялічвацца. Відаць гэта і з наступных лічбаў:

У 1935 г. з нашых земляў (перад усім Віленшчына і Наваградчына) было вывезена 77.840,7 q ляннога валакна на суму 10.163,8 зл.; у 1936 г. — 129.177,3 q на суму 14.784,5 зл., а ў 1937 г. ужо 105.729,7 q на суму 14.292,9 зл. Дадамо да гэтага, што сытуацыя на льнярскім рынку ад мая м-ца сёл. стала яшчэ цяжэйшая: дагэтуль ляжыць непрададзена 4.000 тоннаў запасу (400 вагонаў). Значэньне гэтай лічбы стане йшчэ выразьнейшым, калі прыпомнім, што ўжо націскаюць і запасы сёлетняга ўраджаю, які быў даволі добры.

Дашуківаючыся дальшых прычын вытваранай сытуацыі, паказваюць на „завоз“ у ткацкім промысьле. Промысел гэты, настаўлены на вываз сваіх прадуктаў заграніцу, спыніў дальшы выраб і скупліваньне ляннога сырца ад таго часу, калі заграніца перастала купляць лянныя вырабы. А перастала яна купляць лянныя вырабы дзеля таго, што заграніцай цэны на лён далёка ніжэйшыя ад цэнаў краёвых.

Выхад з вытваранай сытуацыі зацікаўленыя кругі бачаць у: папулярызацыі лянных вырабаў і ўзмацненьні вывазу. Побач з гэтым земляробскія кругі паказваюць, што промысел ткацкі ня выконвае сумленна сваіх забавязаньняў адносна скупліваньня 400 тоннаў ляннога валакна ў месяц і дамагаецца, каб гэта лічба з часам узрастала. — Усе гэтыя меры, пэўна-ж, мелі-б уплыў на дальшае існаваньне нашае лянное гаспадаркі. Але — лён будзе ўсё-ж на „ласкавым хлебе“ ў нас датуль, пакуль гадаваньне яго ня будзе пастаўлена ў плошчы грамадзкай: пакуль прапаганда

---

працоўніцтва, просім і заклікаем: ад чалавека да чалавека, ад хаты да хаты нясеце сваю беларускую кніжку, свой часапіс, аб дабраце й карыснасьці каторага Вы ўжо самі пераканаліся.

2. Усіх бяз вынятку заклікаем: няма праўдзівага жыцьця, няма дабрабыту без асьветы. Гарнецеся да асьветы, пазнавайце праўду!

---

nak, čaho nie zaŭvažyć čałaviek nieabaznany, što darohi zaŭsiady najlepšyja kala pavietavych haradoŭ, kudoju časta prajaždžaje ŭsiakaje načalstva, i psujeccca ŭ kirunku pavietavych hranicaŭ: najhoršyja darohi zaŭsiady ŭ miascoch, dzie stykajucca dva paviety.

Asablivaje ŭražańnie na aŭtora ŭražańniaŭ zrabili pabielanyja vapnaj budynki (ad darohi), płaty i navat kałki, da jakich pryviazany prydarožnyja dreŭcy. Usio heta nazyvaje aŭtor *nonsensam*, jaki nia maje apraŭdańnia ani z punktu hledžańnia estetyki, ani hygijeny: „prosta žal hladzieć na heta biezsensoŭnaje psavańnie vyhladu našych dzieraŭlanych viosak i asieliščaŭ, da šeraha vyhladu katorych pryvykła naša voka. Žmianili ŭvieś hetak asablivy naš pejzaž (vyhlad kraju). Našy šeryja, u miakkim tonie, viaskovyja chatki prybralisia byccam cyrkovyja maski“.

Razam z nakazam ab pabiałańni budynkaŭ i płatoŭ byŭ vydadzieny nakaz zdyjmać kalčasta-dracianyja płaty. Ale ludzi pačali ich pamału ŭznoŭ zavodzić. Jany nie pabielanyja i zdaloku ich nia vidać.

Druhaja reč, jakaja ahulna kidajecca ŭ vočy, heta kasavańnie žoravaŭ (aśvieraŭ) pry studniach i zamiena ich korbami (kałaŭrotami). Moža z časam ludzi prydumajuć što lahčejšaje, ale tymčasam korbaj vykručvać vadu ciažej čym sposabam starym — žoravam.

Vioski Paleskija daŭhija, vialikija, ale ŭtrymany čysta, šmat sadoŭ i aharodaŭ z dyniami, ahurkami, sonieśnikam, a navat — vinahradam (nad Horyniem!). Na nizkich chatach Paleskich viosak šmat busłavych hniozdaŭ, a sami busły tut vielmi svojskija. Strechi chat krytyja tut nie sałomaj, ale tryśnikom (*Phragmites*) i „pad łapatu“.

Na paloch Paleśsia pieravažaje biełу pylisty piasok, na jakim adnak, pry dobrym hnajeńni, raście dobraje žyta i prosa. Heta apošniaje zamianiaje tut naš jačmień.

Nad r. Horyniem jošć adnak miascy z vielmi dobraju hlebaj, čarnaziom. Dobryja tut łuhi, na katorych moža paśvicca nia tolki paleskaja skromnaja skacina, ale i pieraborlivyja anhlickija shorthorny (šorthorny—karotkarohija). Nia dziva dzie-

# Вапнаваньне.

Падобна як чалавек для падтрыманьня свайго арганізму вымагае розных кармавінаў, таксама і расьліна ня можа разьвівацца, калі ня знойдзе ў глебе адпаведнай спажывы. Найважнейшымі элемэнтамі гэтае спажывы ёсьць: азот, фосфар, паташ і вапна. Усе яны знаходзяцца ў хляўным гнаі. Але ёсьць расьліны, якія вымагаюць больш таго, што знаходзяць у глебе ці ў хляўным гнаі. Так напр. ведама пэўна кожнаму земляробу з практыкі, што бульба вельмі добра адплачваецца за дадатак поташу, цукровы бурак — за дадатак фосфару і азоту. Дзеля гэтага найчасьцей ужыванымі ў нас угнаеньнямі зьяўляюцца азотныя, фосфарныя і паташовыя. Затое аб вапне як кармовай сучастцы глебы чуваць вельмі мала, а асабліва рэдка можна пабачыць, каб вапну гэту на сваім полі рассяваў дробны гаспадар-земляроб. Тымчасам вапна гэта складнік ня менш важны ад раней успомненых, асабліва калі прыняць пад увагу, што цэлы рад гаспадарскіх расьлінаў на безвапенных глебах зусім не ўдаецца. Належаць да іх усе канюшыны, люцэрна, пералёт, гарахі, бобік, пялюшка і г. д. З другога боку трэба зазначыць, што ёсьць цэлы рад і такіх расьлінаў, як сэрадэля ці лубін, якія празмернага мноства вапны ў глебе ня церпяць. Лёну-ж на глебах багатых у вапну ня сеем, але не дзеля таго, каб ён на гэткіх глебах не ўдаваўся, а дзеля таго, што валакно гэткага лёну з вапністай глебы было-б ломкае, а знача давала-б тавар горшага гатунку. Знача, калі хочам мець высокія ўраджаі канюшыны, гароху і г. д , дык мусім старацца, каб глеба мела ў сабе больш вапны, чымся ёсьць яе ў звычайным хляўным гнаі. Калі глеба з натуры сваей бедная на гэты складнік, дык трэба яе вапнаваць. Дзеля таго што некаторыя штучныя гнаі, як азотняк, томасына, супэртомасына маюць у сабе так-жа і вапну, дык шмат хто думае, што гэтага ўжо і даволі. Тымчасам некаторыя

---

лёну ня станецца арганічнай часткай грамадзкага ўсьведамленьня самага плянтатара, як поўнапраўнага гаспадара свайго Краю. Іншага выхаду на дальшую мэту няма і быць ня можа.

*А. К.*

---

la taho, što ŭ zavodzkaj žyviołahadoŭli na takich łuhoch vielmi šmat jość skaciny z kryvioj rasy simentalskaj, jak u dvaroch, tak i ŭ sialan. Tłumačycca heta tym, što simentalskaja skacina svajej bolšaj masaj pryhodnaja da pracy i vielmi łahodnaja ŭ abchodžańni. U lasoch rastuć: dub, jasień, hrab, lipa i biełaja akacyja.

Kabiety pry polnaj rabocie apranuty ŭ vyšyvanych lannych saročkach. Nasielnictva havora pabiełarusku z miascovym dyjalektam, zaležna ad miascovaści. Pavodle dyjalektu možna paznać skul chto pachodzie.

Kali mova ab Paleśsi, dyk kožny sabie pradstaŭlaje, što heta biednaja kraina, jakuju moža aščaślivić asušeńnie. Votža nie, i p. R. V. stanovicca pa staranie tych, jakija kažuć, što kali-b praviešci niepradumanuju asušku Paleśsia, dyk dalisia-b u znaki nia tolki sypučyja piaski, ale i suchija tarfianiščy, na jakich tady ničoha nia vyrasła-b. A treba viedać, što na „bałotnaj“ žyviołahadoŭli tut apirajecca ŭsia haspadarka i byt sielanina. Siena („bałotnaje“!), skacina i vada — heta apora paleskaj haspadarki, pry čym vada tut cennaja jak ažyŭčaja siła tarfianiščaŭ. Skacina tut patrebnaja dzieła pradukavańnia hnoju i miasa; tamu i nazyvajuć jaje „tavaram“. Hety tavar abiartajecca ŭ haspadarcy palešuka chutka i stała, i ŭsio Paleśsie pradstaŭlaje saboj ahromnistujuju fabryku miasnoha tavaru. „Moža, z časam, razumna praviedzienaja melioracyja stvoryć na Paleśsi inšyja ziemlarobskija varunki i prablemy. Pakul adnak heta nastupić — ziemlarobskaja pradukcyja Paleśsia budzie apiracca na pradukcyi miasa. I dzieła taho sens padniaćcia dabrabytu tamašniaha ziemlaroba pavinien prajaŭlacca ŭ palepšańni „tavaru“ — i dobraj arhanizacyi jahonaha abarotu i pieratvorstva. — Nažal, zdajecca nia vidać trafnych pačynańniaŭ u hetym kirunku“.

Havoračy ab žyviołahadoŭli ŭ Navahradčynie aŭtor śćviardžaje, što skacina tut u maści svajej pieravažna biełachrybtaja, z pieravahaj biełaha j čornaha nizinnaja. Najmienš skaciny ryžaj (čyrvonaj).

# Ня пійце вады пасьля фруктаў.

Што вада па фруктах часта шкодзіць людзкому здароў'ю, — гэта людзі заўважылі даўна. Але і да сягоньня астаецца нявыкрыты сакрэт, чаму гэткая вада шкодзіць. Ведама толькі, што наступаюць пры гэтым болі жывата і рвоты (тошнасьць). Ад сабраных усярэдзіне хворага чалавека газаў наступае ўздуцьцё; выпаражніваньне ўстрымоўваецца.

Як усё гэта вытлумачыць?

Адны думаюць, што жалудак (трыбух) ад перапаўненьня занадта расьцягваецца і дзеля таго перастае працаваць. Другія думаюць, што фрукты, зьмяшаўшыся ў жываце з вадою, пучнеюць (як цеста на дражджах) і заціскаюць выходную кляпу жалудка; астаецца пры гэтым адзін толькі выхад — уверх. Наступае тады прыкрае адрыганьне, якое часта пераходзе ў рвоты.

Урэшце апошнія дагадкі людзей аб прычынах шкоднасьці вады пасьля садовіны (фруктаў) тлумачаць усю справу гэтак: месцам хворасьці ня ёсьць жалудак (трыбух), але тонкая кішка, у сподняй часьці каторай ёсьць надта шмат бактэрыяў. Гэтыя бактэрыі ў соках спажытай садовіны знаходзяць для сябе вельмі добрую страву (цукар). Таму бактэрыі страшна хутка размнажаюцца, выклікаючы пры гэтым сільную фэрмэнтацыю, ад чаго вытвараецца многа газаў. Газы гэтыя расьпіраюць сьценкі тонкай кішкі і яна перастае працаваць... А гэты застой і ёсьць шкодным.

Але — скажа нехта — а як-жа дае сабе раду гэта самая тонкая кішка звычайна, калі чалавек, скажам, ня п'е тэй вады? Бо — так прынамся здаецца, — бак-



множацца і гэтулькі выдзяляюць газу, што ў сярэдзіне бутлі паўстае шум: гэта „бурлівае квашэньне," якое трывае 2—3 і больш тыдні.

Пасьля гэтага дрожджы ападаюць на дно і віно праясьняецца, счышчаецца. За 2—3 тыдні пасьля „бурлівага квашэньня" счысьціўшаеся віно сьцягуецца ў іншую судзіну пры помачы гумовай руркі, адзін канец якой апускаецца ў судзіну з заквашаным мошчам так глыбака, каб сягаў найглыбшага празрыстага слою віна, ту-ж над зьлёгшай мулой (дражджамі), а другі — выходзіць з горла бутлі і зьвісае значна ніжэй, чымся дно самай бутлі. Гэты апошні канец руркі бярэцца ў зубы і высысаецца з яе паветра. Разам з гэтым паліецца праз яе і віно, якое будзе сьцякаць у падстаўленую судзіну (бутлю ці бачонак). Замест у бутлю ці бачонак можна сьцягіваць віно гэтак проста ў паасобныя бутэлькі, якія пасьля наглуха закарковываюцца, заліваюцца воскам, ці лякам і складаюцца ў склепе ляжма ў пясок. Робіцца гэтак пры вырабе віна для хатняга ўжытку. — Лепш аднак давясьці працу да канца і прад разьліваньнем у бутэлькі, даквашываць віно ў вялікіх бачонках, ці бутлях, з захаваньнем усіх вымогаў: тэмпэратура ня вышэйшая 10—14°C, поўная судзіна і „квашэльны корак."

Віно пасьпявае цалком да ўжытку не раней аднаго году: за гэты толькі час яно пасьпявае цалком вытварыць адпаведны смак, аромат (пахучасьць) і стацца іскрыста-празрыстым. Аб такім віне кажуць, што „мае добрую іскру."

Інж. А. К.

# Безалькагольныя напіткі на рабочы час.

Чыстая вада гасіць смагу толькі на кароткі час Дамешкі да вады, прыгатаваныя хвабрычным спосабам, бываюць дарагія; а танейшыя дамешкі шкодны для здароўя. Трэба дзеля таго пашукаць такіх напіткаў і дамешак, якія былі б здаровымі, а прынамся ня шкоднымі для здароў'я і прыступнымі па сваёй цане. Яшчэ лепш будзе, калі напіткі гэткія навучымся рабіць у сваей собскай гаспадарцы. Матар'ялам да гэтага могуць быць: жытні разовы хлеб, садовыя ападкі, ігрушкі-дзічкі, чорныя парэчкі і ўрэшце рабарбар. Разгледзім іх коратка і папарадку.

Добры **хлебны квас** можна прыгатаваць гэтак: 2 кілёграмы разовага хлеба рэжуцца спачатку на тонкія ськібачкі, якія пасьля разразаюцца накрыж, атрыманыя гэтак дробныя „косткі“ („кубікі“) хлеба моцна сушацца, аж „румяняцца“ і пасьля таўкуцца на парашок, ссыпаюцца ў чыстую судзіну, напр. у вядзерца і заліваюцца кіпячай вадой (каля 15 літраў, або 4 гарцы). Калі залітая вада крыху прыстыне, дадаецца да яе паўтары шклянкі цукру і 3 дэка (30 грам) добрых сьвежых дрожджаў. Гэтак рашчынены квас ставіцца ў цяпле. Праз 12 гадзін мешаніна пачынае бушаваць, а на версе творацца шумавіны (кажух), каторыя трэба асьцярожна зьбіраць.

Калі бушаваньне кончыцца, нясьпелы квас разьліваюць у чыстыя высушаныя бутэлькі, у каторыя прад тым укідваюцца па тры вымытыя разынкі. Напоўненыя



ба тоненька абабраць, а большыя—разрэзаць папалам; зярнят выбіраць ня трэба.

Правільнае сушэньне йгрушак складаецца з параньня і ўласьцівага сушэньня. Парацца йгрушкі так доўга, аж пакуль зьмякнуць і даюцца прапіхнуць саломінай, але не развальваюцца. Пасьля гэтага раскладаюцца па аднэй і пачынаюць сушыцца зразу пры высокай тэмпэратуры (аж да 80°Ц). З часам тэмпэратура абніжаецца (пры сушэньні сьлівак — наадварот). Сушачыяся ігрушкі трэба што 10—15 мінут перастаўляць, або пераварачываць. Йгрушкі салодкія да цьвярда сушыць ня трэба.—Хто ня мае—а такіх большасьць—адумысловага парніка, хай парыць йгрушкі ў звычайным шырокім гаршку, які аднак мусіць: 1. добра закрывацца і 2. мець дзюркаванае дно, пад каторым — паміж уласьцівым дном і йгрушкамі — знаходзіцца кіпячая вада. Гэткі парнік можа кожны сам сабе зрабіць.

Спосаб сушэньня сьлівак у засадзе згаджаецца з сушэньнем ігрушак. Толькі сьліўкі да сушэньня мусяць быць якнайстараньней высьпеляныя і цэлыя. Самае сушэньне сьлівак ня сьмее быць наглым, а толькі павольным. У Францыі працэс сушэньня некалькі разоў прарываюць, а сушэньне само пачынаюць з вельмі нізкай тэмпэратуры (35° Ц).

Інж. А. К.

быць халоднай, а садовіну трэба сушыць некалькіма наваротамі. Ня можна класьці ў печ адразу шмат садовіны, бо тады яна ня роўна высыхае. Класьці трэба яе заўсёды роўным пластам, падсьцілаючы заўсёды салому.

Што такое ліскі да сушэньня садовіны? Робімо іх гэтак: зьбіваем дзераўляныя рамы так доўгія і шырокія, каб маглі вольна памясьціцца ў нашай печы. Рамы гэтыя абцягваем моцнай органтынай (рэдкая тканіна, якую можна дастаць у кожнай краме з мануфактурай) або лепш яшчэ прыбіць на раме сетку з нержавеючага дроту. Як органтыну, так драцяную сетку прыбіваем да рамы цьвякамі. На ўсіх рагах рамаў набіваем сыспаду нявысокія, 4—5 см. ножкі, мяркуючы так, каб у разе патрэбы можна было ліскі стаўляць ў печы адна на другую.

Замест драцянай сеткі, можам плясьці ўсю ліску з дзераўлянага пруцьця. Ліскі напоўненыя садовінай да сушэньня трэба перакладаць, каб раўнамерна высыхалі.

Гэтак сушаная садовіна ёсьць поўная, нязморшчаная, у меру сухая і чыстая.

Йшчэ адна заўвага — вялікія яблыкі рэжам на чвёрткі, меншыя на палавінкі, вырэзваем гнёзды з зярнятамі. Йгрушкі рэжам на палавінкі, пакідаючы хвосьцікі. Сьліўкі і вішні сушым цэлымі.

Высушаную садовіну перахоўвуем у мяшкох з рэдкага палатна або сеткі, ў сухім, правеўным, незатухлым месцы.

Задаймо сабе крыху труду — а ён выплаціцца нам напэўна.

Інж. О. Д.

## Сушэньне йгрушак і сьлівак.

Да сушэньня найлепшыя сарты йгрушак, што маюць шмат цукру і мяккае мяса. Йгрушкі мусяць быць сьпелыя, але неперасьпелыя. Прад сушэньнем іх трэ-



бутэлькі закаркоўвуюць, а каб газы гэтага корку ня выперлі, яго прывязваюць шнурком ці дротам. Самыя бутэлькі тады выносяцца ў месца сьцюдзёнае (склеп, варыўня) і кладуцца ляжма. Квас дасьпявае па 3—4 днёх. За гадзіну — дзьве прад піцьцём такі квас ставіцца на лёд. Калі лядоўні ў гаспадарцы няма, тады бутэлькі з квасам састаўляюцца ў чыстае вядро, якое на моцнай вяроўцы спускаецца ў студню (калодзезь): квас тады дакладна ахалодзіцца.

Нясьпелыя **ападкі** (яблыкі й ігрушкі) з саду гэта таксама добры матар'ял на квас. Сабраныя ападкі перабіраюцца, выбіраюцца толькі штукі здаровыя, ачышчаюцца, разрэзваюцца на чатыры часьці кожны, ссыпаюцца ў чысты бачонак, або ў эмальяванае вядзерца і заліваюцца вадой, пры гэтым вады даецца ў два разы больш як ападкаў. Залітыя гэтак ападкі стаўляюцца ў цёплым месцы на два дні, пасьля жыжку трэба працадзіць праз палатняную цадзілку, засаладзіць, колькі хто любіць, разьліць у бутэлькі і закаркаваць, як пры квасе хлебным. Гэткія напоўненыя бутэлькі праз тры дні хай пастаяць на сонцы (напр. на акне), пасьля на тыдзень іх выносяць у склеп і квас гатоў.

З дзікіх польных **ігрушак** (дзічак) можна прыгатаваць напітак у верасьні аднаго году і датрымаць да рабочага часу ў наступным годзе. Здаровыя, але неперасьпелыя йгрушкі трэба спачатку добра апаласкаць, ссыпаць у бачонак так, каб занялі ў ёй тры чвёрткі прастору, заліць да паўна вадой, накрыць дэнкам, прыціснуць каменям і вынесьці ў склеп. Па трох месяцах напітак гатовы; цяпер разьліваецца ён у бутэлькі, у каторых можа пралежыць і некалькі месяцаў. Самыя йгрушкі могуць быць добрым прысмакам.

З **чорных парэчак** напітак прыгатаўляецца гэтак: кілёграм сьпелых парэчак заліваецца 10-цю літрамі вады, разварваецца, цэдзіцца праз густую палатняную цадзілку і выціскаецца. У атрыманай цечы распускаецца 60 дэка (паўтара фунта) цукру і 5 грам дрожджаў. Усё

гэта дакладна мяшаецца і зьліваецца ў бутэлькі, у каторыя прад тым было ўложана па 2—3 разынкі. Бутэлькі гэтк'я трымаюцца адзін дзень у цяпле, а пасьля выносяцца на два дні ў склеп і — гатова.

З **рабарбару** прыгатаўляецца сок, які даецца да вады. Поўкілёграма рабарбару абіраецца з „скуркі,“ рэжацца на кускі, заліваецца літрам вады, дадаецца паўчвёрткі кілёграма (12 дэка цукру і варыцца з прыданьнем цытрынавай скуркі). Пераваранная цеча цэдзіцца, старанна зьліваецца ў бутэлькі і выносіцца ў сьцюдзёнае месца.

Пры канцы трэба заўважыць, што ня можна ніякіх напіткаў шмат піць за раз, „адным духам:“ гэтак смага не праганяецца, а сэрца змушаецца без патрэбы да сільнай працы. Трэба дзеля таго піць па менш, але часьцей.

С. С.



## Сушыма садовіну.

Узімку, калі ня стане сьвежай садовіны, добра смакуе кампот з сушаных яблыкаў, ігрушак ці сьлівак... Хто мае шмат садовіны, той не шкадуе і лепшых сартоў, каб пабольшыць зімовыя запасы ў сваей каморы.

Сушэньне садовіны ведае вёска здаўна, але не заўсёды такое сушэньне ўдаецца. Часта бачым, як на гарадзкіх рынках прадуюць гаспадыні сушаную садовіну, якая зусім ня прыцягвае вачэй пакупцоў. Сушана такая садовіна разам з рабакамі, зярнятамі, блізу на вугаль спаленая і ўся ўкачаная ў попел. Гэткі тавар у гандлі ня можа быць ходкім. Таму, калі хочам мець хораша сушаную садовіну для сябе і на збыт, мусімо пасьвяціць ей больш увагі.

Наўперад садовіну празначаную да сушэньня трэба вымыць чыстаю вадою, пасьля парэзаць, выняць зярняты разам з асяродкам (гняздом), выразаць мясцы надгрызеныя рабакамі і тады толькі сушыць.

Дзе й як гэта рабіць? Можам сушыць садовіну ў печы па хлебе, у трубе (у духоўцы), а таксама на пякарскай печы на асобных шуфлядах (на лісках), а некаторыя дробныя ягады — на сонцы.

У печы сушым або на саломе або на лісках. Выбіраем снапок чыстай саломы, распускаем яго ў чыста вымеценай печы і сыплем на яе прыгатаваную садовіну. Як прасохнуць, ссуваем рукамі салому разам з садовінай і выцягваем з печы. Прасохшую садовіну перамешваем ня рукамі, але чыстай лапаткай. Зазначаем, што печ ня можа быць гарачай, бо тады садовіна пусьціла-б з сябе сок, ня сохла-б, а пяклася-б. Печ мае

расьліны патрабуюць вапны вельмі шмат і пад іх на глебы безвапенныя трэба дадаваць вапну асобна, так як і іншыя гнаі штучныя.

Але вапна адыгрывае вялікую роль ня толькі як чыньнік кармовы, але таксама мае добры ўплыў на будову глебы — развальняе і крыша глебы праз меру цяжкія і вязкія, вяжа лішне лёгкія і разьвеўныя, памагаючы такім чынам тварыць і ўтрымліваць карысную для кожнай расьліны будову крупчатую (друбковую). Акрамя таго вапна адквашвае глебу кіслую, на якой культурныя расьліны расьці ніяк ня могуць. Урэшце вапна выцягвае кармавыя складнікі з розных трудна распускальных глебавых сувязяў, дзякуючы чаму ўраджаі па вапнаваньню бываюць звычайна большыя. Зразумелая рэч, што большыя ўраджаі з павапнаванай глебы больш з гэтай глебы выцягваюць так-жа іншых кармовых складнікаў. Таму кажуць людзі, што вапна ўзбагачвае бацькоў і абкрадае сыноў. Каб да гэтага не дапусьціць, трэба адначасна з вапнаваньнем глебы ўзбагаціць яе і іншымі кармавымі складнікамі ў форме ўгнаеньняў штучных. Асабліва помніць пры гэтым трэба аб поташы.

Гаварылася ўжо вышэй, што вапна прысьпяшае рух кармавых складнікаў у глебе. Гэта ўласьціваcьць вапны, вельмі цэнная й пажаданая пры глебах мала чынных (зьбітых, спуставаных), ёсьць недастаткам пры глебах гноеных гноем хляўным. Дзеля гэтага не вапнуем глебы адначасна з пагнойваньнем яе гноем хляўным: вапну даём звычайна ў год пасьля гнаеньня, найлепш перад расьлінай, якая вымагае шмат вапны. Калі пасьля акопнінаў маем намер сеяць расьліны стручковыя ці канюшыну ўсейваць у яравое збожа, дык вапну трэба даць увосені па зьняцьці з поля акопнінаў (па бульбянішчы). Калі між дзьвюма расьлінамі каласавымі сеем расьліну стручковую, дык па сабраньні першай расьліны каласавой, проста на аржышча рассыпаем вапну, прыкрываючы яе мелкім узараньнем (зяблівам). Замест гэтага можна вапну рассыпаць па аржышчы ўжо ўзараным і пасьля моцна прыбаранаваць. Порцыі вапны бываюць розныя, залежна ад земляплоду (расьліны), які маемся сеяць, а перад усім ад глебы. Звычайна гэта порцыя хістаецца паміж 5 і 10 мэтр. цэнтнараў*) на 1 гэк-

*) 1 мэтр цэнтнар важыць 100 кілё.

---

I adnak rajonizacyjnyja ŭłady žyviołahadoŭli pastavili tut buhajoŭ—ryžych (h. zv. čyrvona-polskich). Praciŭniki hetaha nakinataha ŭładami kirunku „čyrvonaha“ chapajucca často za prociŭležnaść — za buhajoŭ nizinnych — holandzkich. I słušna kaža aŭtor: „Jakaja škoda, što žyviołahadoŭla tutejšaja chistajecca pamiž dźviuma praciŭležnaściami... Ci-ž nia možna było-b išci darohaj inšaj, apirajučysia na sobskich najlepšych rodach karoŭ, nie dajučy piaršynstva ni maści, ni rasavamu pachodžańniu, — a vybirajučy tolki miascovy matarjał pavodle małočnaści i zdaroŭja?“ Heta tymbolš cikava, što karovy miascovyja ŭ takim napr. Niaśviskim paviecie, pry 350—450 klh. žyvoj vahi, lohka dajuć 3, a paśla dachodziać i da 4 tys. litraŭ kłustaha małaka ŭ hod.

Kali mova ab Navahradčynie, dyk nia možna abminuć moŭčki niastaču tut lesu. I mima taho adnak nidzie nia vidać budynkaŭ muravanych ci hlinabitnych. Na apał ludzi ŭžyvajuć torf, ab čym śviedčać častyja biezplanovyja „dziury“ na miascovych tarfianistych sienažaciach. Heta biezplanovaść pahražaje, što ŭ chutkim časie nia buduć mieć ludzi ani torfu, ani sienažaćciaŭ.

U Niaśvižskim paviecie (Narucevičy) aŭtor byŭ śviedkam hutarki adnej sialanki, jakaja pryjšła prasić rady, što jej zrabić, kab prykupić z sumiežnaha dvara 4 ha ziamli: usia „biada“ ŭ tym, što sialanka heta — pravasłaŭnaja, „a pravasłaŭnym u hetych akolicach byccam ziamli kuplać nia volna“; navat tady, kali-b taki pravasłaŭny zhadziŭsia i źmianić svaju vieru.

U Žemasłaŭi — majontku jaki naleža da Vilenskaha Universytetu, varty ŭvahi z haliny žyviołahadoŭli try rečy: hadoŭla žarabiat, hadoŭla słaninovaj krajovaj („vilenskaj“) śvini i hadoŭla vierasavaj aviečki (na kažuchi). Apošniaj adnak hadaŭlanaj asablivaściaj Žemasłaŭja jošć hadoŭla babroŭ u rečcy Gaŭi, jakich siudy pieranieśli z Niomna i jakimi apiakujecca inž. Grüner. Padkormlivajucca babry: halinkami asiny, vierby i topalu.

тар. Калі-ж глеба вельмі спуставана а расьліна патрабуе вапны, дык гэна порцыя можа быць нават большая. Аднаразовага вапнаваньня хапае на некалькі год.

*Паз.*

## Жыта на бульбянішчы

Масавы, не заўсяды прадуманы гон касаваньня трохпалёўкі і заводжаньне розных навачасных севазваротаў умяшчае мясцамі жыта на бульбянішчы. Часам гэта ўдаецца, але часьцей — прападае. Чаму? Бо-ж бульбянішча здаецца павінна быць месцам адпаведнім. І аднак ураджай жыта на такім полі найчасьцей бывае горшым, чым на полі ў 4—5-тым годзе па хляўным гнаі. Чаму?

Каб адказаць на гэта пытаньне, трэба пазнаць вымаганьне жыта.

Жыта любіць глебу добра выраб-леную, пульхную зьверху і зьбітую ў сподзе. А тымчасам бульбянішча ўвосені як-раз ёсьць наскрось пульхнае; тымбольш калі яно яшчэ ўзарэцца — тады такое бульбянішча становіцца проста пылкім і ў ім жыта ня можа ўкарэнівацца.

Усё гэта аднак зусім ня знача, каб на бульбянішчы ня можна было сеяць жыта. Не. Для расьліны важна ня тольқі страва якую яна знаходзе ў глебе, але і будова самае глебы. Бульбянішча ў сьвежым стане мае даволі гнойных сучастак, але благая ейная будова. І заданьнем чалавека ёсьць гэту будову паправіць ці, йнакш кажучы, памагчы ей хутчэй асесьці. Натуральна, усё гэта ў тым выпадку, калі бульба капаецца ў верасьні, а не раней. На бульбянішчы па раньняй бульбе, выкапанай у жніўні і тым больш у ліпні м-цы ніякай помачы чалавека дзеля прысьпяшэньня злежаньня ня трэба; такое бульбянішча даволі толькі ўзварушыць лёгкай бараной паверсе і сеяць.

Інакш з жытам на бульбянішчах позных. Тут позна засеенае жыта да зімы не пасьпее добра ўкараніцца і ад зімаваньня вельмі церпіць. Хто-ж міма ўсё гэта змушаны на позным бульбянішчы сеяць жыта, той павінен такое бульбянішча ня толькі ня ўзорываць, але, прыбаранаваўшы лёгка, павінен яго прыбіць цяжкім валам. Вал аднак павінен быць ня гладкі, а зубаты, які зьбіваў-бы сподні пласт глебы, але верхні пакідаў-бы пульхным. — Пры ўсім гэтым аднак трэба памятаць, што такое штучнае зьбіваньне бульбянішча толькі ў часьці заступае натуральнае зьлежываньне глебы і таму ўраджаі на ім усё-ж ня пэўныя. Лепш далёка сеяць на іх: збожа яравое, стручковыя ці пашныя мешанкі.

*М. З.*

## Калі і як прыворываць зялёныя гнаі

Хоць сьведамасьць карысьці зялёных гнаёў наагул узяўшы ў нашага беларускага селяніна ўжо даволі вялікая, то аднак нярэдка йшчэ вельмі кульгае само уменьне абходзіцца з гэтымі гнаямі. Датыча гэта перад усім правільнага заворываньня, ад якога ў канцы канцоў залежа сам ураджай. Бо няраз-жа напр. здараецца так, што азіміна пасееная па зялёных гнаёх ні з сяго ні з таго раптам пачынае жоўкнуць. Чалавек наракае на зялёныя гнаі, а віна — ў нечым іншым: у тым, што жыта пачало ўсходзіць як раз у тую пару, калі заараны лубін (ці іншая гнойная расьліна) разагрэўся (фэрмэнтацыя!) і таму папаліў маладыя карэньчыкі жыта. Знача, вінават тут ня лубін, а сам гаспадар, які ў благую пару засеяў жыта.

Як-жа тады быць?

З практыкі ведама, што найлепш заворываць зялёныя гнаі, калі яны перацьвітаюць, але ня твораць яшчэ стручкоў. У гэту пару лубін (і іншыя расьліны зялёнага гнаеньня) найлепш раскладаецца і ня траціць з сябе йшчэ ніякіх цэнных сучастак, якія крыху пазьней пераходзяць ужо ў зерне. Другой справай, на якую трэба зварочваць увагу, ёсьць — каб баразна з заараным гноем мела час зьлегчыся перад пасевам. Важна гэта перад усім у жыта. Урэшце трэцяя справа гэта ўжо ўспомненае мерканьне, каб збожа не пачало ўсходзіць як раз у тую пару, калі заараны зялёны гной разаграваецца і паліць (гарачая фэрмэнтацыя).

Усё гэта прыняўшы пад увагу заворываць зялёны гной трэба або цесна перад самай сяўбой, або найменш за 4—5 тыдняў перад сяўбой. У першым выпадку азіміна ўзыйдзе перш чым пач-

нецца фэрмэнтацыя (саграваньне), а ў другім — фэрмэнтацыя выперадзіць прарастаньне; ці йнакш кажучы — фэрмэнтацыя ніколі не спаткаецца з прарастаньнем. А гэтага й трэба. — Дзеля таго аднак, што пры пазьнейшым заворываньні зялёнага гною, а гэтым самым і пры пазьнейшай сяўбе, ураджай ня пэўны, асабліва на грунтох лягчэйшых, таму наагул найлепш прыворываць гной рана і раней сеяць.

Як прыворываць?

Прыараная зялёная маса не павінна ляжаць у баразьне зьбітымі пластамі, а мусіць быць роўна прысыпана зямлёю, каб ані крыху не выставала спад зямлі. Гэтак прыараць — гэта работа не заўсяды простая, а перад усім ня ўсюды аднолькавая. Лягчэй добра прыараць аднолькавую масу зялёных гнаёў, напр. аднаго лубіну, аднаго бобіку, аднэй гарчыцы, і цяжэй прыворываць мешанку. Аднолькавую масу, нават буйна пароcлую, можна добра прыараць, калі да дышля плуга перад паліцаю прывязаць жалезны прут ці нават дзераўляны цяжкі кол, які абыймаў-бы і прыціскаў-бы да зямлі лубін на шырку дзьвюх барознаў.

Інакш пры гнойных мешанках, такіх як лубін з пялюшкаю і вікаю, асабліва калі яны густыя, добра вырасьлі, або можа йшчэ павылягалі. У такім выпадку трэба йсьці за плугам з касой і ўсё скошанае роўна зграбаць у баразну. Найлепш прыворываецца, калі баразна гоніцца як можна вузейшая, але глыбокая прынамсі на 15—20 см. Галоўнае тут правіла, каб зялёная маса ані крыху ня вылазіла з баразны, усё павінна быць прыкрыта.

На той выпадак, калі з заворываньнем зялёных гнаёў справа сьцягнецца, а сеяць ужо пара, трэба прыараны лубін добра прыбіць цяжкім валам. Канешнае гэта з трох прычын:

1. жыта патрабуе, каб ральля была асеўшая;

2. прыбітая валам зямля ўспамагае правільнае перагніваньне зялёных гнаёў, баронячы іх ад хуткага і безкарыснага спальваньня; і

3. прыбіваньнем сьціскаюцца пустыя гнёзды ў баразьне, на каторых азіміна хоць зразу і абыйдзе, то аднак пасьля вяне і гіне.

*С. Я.*

# Гэская і швэдзкая мухі— шкоднікі азімінаў

Можа сухая сёлетняя восень не аднаму прыпомніць нашы заклікі да ўзорываньня аржышча зараз пасьля сярпа. Хто нас паслухаў, той не засушыў зямлі і цяпер, паміма сухой восені, можа араць сваё поле пад пасеў, а хто нашых радаў ня слухаў, той хай наракае цяпер на сябе.

Але раньняе ўзорываньне аржышча і наагул утрыманьне ўсяго неабсеенага поля пад чыстым (чорным) папарам патрэбна йшчэ і на нешта іншае — на нішчэньне ўсякага шкоднага пустазельля а так-жа на змаганьне з **мухой** гэскай (мясцамі швэдзкай), гэтым вельмі частым і небясьпечным шкоднікам нашых збажовых засеваў.

Гэская муха большая і праз лета плодзіць два пакаленьні. Швэдзкая муха хоць меншая, то аднак у год плодзіць тры пакаленьні. Яйкі сваe абедзьве мухі складаюць на маладых расьлінках збажавінаў. На гэтай расьлінцы трымаецца і еймымі сокамі корміцца рабак будучай мухі аж да поўнай сьпеласьці. Складаньне яек гэтымі мухамі на маладых азімінах трывае аж да палавіны верасьня, а выклюнутыя з яек рабакі (лярвы і пачваркі) нішчаць засевы. Восенскае пакаленьне гэтых шкоднікаў зімуе ў зямлі, на вясну аджывае, каб далей шкодзіць і множыцца. Акрамя маладога збожа рабакі гэтых мух могуць так-жа жыраваць на пустазельлі, на травах і на інш. расьлінах. І таму вынішчыць гэскую (швэдзкую) муху вельмі трудна.

Барацьба з імі павінна йсьці двумя дарогамі: самым мухам трэба перашкаджаць складаць яйкі, а выклюнутым рабаком — перашкаджаць жыраваньне. Натуральная рэч, што калі на полі празначаным пад засеў азіміны, ані ў блізкасьці такога поля няма ніякіх расьлінаў (як культурных так і пустазельля), на якіх маглі-б быць зложаны яйкі, дык мухі самі не размнажаюцца і пераносяцца ў іншыя аколіцы. Таму аржышча трэба зразу ўзараць і далей утрымоўваць яго чыста. Таксама трэба нішчыць усякае пустазельле на межах, у прыдарожных равох і г. д. Калі пры зьбіраньні з поля збожжа пасыплецца і пасьля абыйдзе, дык гэткую рунь трэба

таксама чым хутчэй узараць, бо на ей могуць загнезьдзіцца шкоднікі.

Яйкі складаюцца толькі на маладых расьлінках і нападзенае сьцябло або расьце вельмі слаба або зусім гіне.

Дзеля таго што мухі гэтыя складаюць яйкі ўвосені толькі да палавіны верасьня і вясной, у маі месяцы, дык трэба сеяць так, каб у часе галоўнага лёту мух поле было або зусім неабсеенае або каб расьліны былі ўжо на гэтулькі разьвітыя (ацьвярдзеўшыя), што мухі на іх ужо яек не складаюць. Дзеля гэтага і радзяць стасаваць вясной сяўбу раньнюю, а ўвосені — наадварот, сяўбу гэту сьцягваюць на другую палавіну верасьня. Нападзеныя мухай пасевы лёгка пазнаць па тым, што яны маюць на сабе жоўтыя плямкі. — Сьцягваць восенскі пасеў азімінаў на пару пазьнейшую радзяць аднак толькі там, дзе ведама, што гэская муха напэўна ёсьць; дзе мухі няма, там і ўвосені лепшы пасеў раньні. Спозьніваньне сяўбы заўсяды палучана з небясьпекай і калі ўжо яна пакажыцца канешнай, дык сеяць трэба гусьцей. Канешным пры гэтым ёсьць уціскаНьне ўзаранай мешані, бо жыта, як ведама, патрабуе зямлі злежанай.

*С. Я—віч.*

# СУСЛЫ

Дзяды нашы казалі, што калі „паны бавяцца, дык мужыком лабы трашчаць". Астаткі гэткіх парадкаў даюцца ў знакі яшчэ дагэтуль. Чэскія сялянеземляробы да сягоньня церпяць шкоды ад ондатры, якую ў свой зьвярынец дзеля забавы прывёз быў у сваім часе адзін нямецкі магнат, ад каторага гэты шкоднік пасьля пашырыўся на ўсе ваколіцы. Падобную шкоду церпіць беларускі селянін ад суслаў, якіх прывёз у Край таксама магнат, князь Кароль Радзівіл. З князеўскага зьвярынца суслы, прывезеныя для забаўкі, таксама пашырыліся яшчэ ў 1921 г. па палёх бліжэйшых і дальшых беларускіх вёсак, перад усім паўдзённай Наваградчыны: у Нясьвіжскім і Баранавіцкім паветах. Шкоды, якія робяць суслы ў гэтых мясцох, ня раз ужо змушалі людзей да аднаразовых аблаваў. На разе гэта памагала, але пасьля шкоднік множыўся й шкодзіў далей. Доказ гэта, што барацьба з суслам павінна трываць стала, няўпынна і, што найважнейшае — з зразуменьнем спосабу жыцьця самага сусла. Інакш вывесьці яго ніяк ня можна.

Сусал, інакш—сусьлік, гэта невялікі сысун, з гатунку грызуноў. Даўжыня ягонага цела даходзіць да 30 см., а сам хвост — да 7 см. Усё цела сусла пакрыта прыгожаю поўсьцю, колер якой у спатыканых у нас суслаў пераважна шэры з жаўтавымі гарошынамі. Вушы малыя і схаваныя ў пушыстай поўсьці, а вочы сплюшчаныя з укоснаю зрэнкаю. Ногі кароткія, з доўгімі, плоскімі, сільнымі (для капаньня зямлі!) капцюрамі. Асаблівасьцю ягонай аднак зьяўляюцца прымордныя мяшэчкі, у каторых сусал зносіць зімавыя запасы ў свае падземныя норы.

Корміцца збожам, ягадамі, зялёнымі часьцямі расьлінаў а так-жа мышамі і рознымі мухамі. Нападае так-жа птушак, што гнезьдзяцца на зямлі. На зіму сабе аднак зьбірае толькі збожа й карэньчыкі. Сам-жа водзіцца й гнезьдзіцца ў аколіцах сухіх, бязлесных: на палёх, лугох і пасьбішчах. Натуральныя непрыяцелі сусла гэта: ласіцы, шашкі, куніцы, лісіцы і дросныя птушкі, як совы, ястрабы й інш.

Норы свае капае сусал даволі глыбака, бо на 1—2½ мэтра пад зямлёю. З норы вядзе на верх толькі адзін выхад, які на зіму засыпаецца. У сярэдзіне норы бываюць пашыраныя і высьцеленыя травой. Прад западаньнем у зімовы сон сусел кожны раз капае новы канал, які даходзе блізу аж пад паверхню зямлі і паводле ліку гэтых каналаў можна даведацца, як доўга там гэты шкоднік гнезьдзіцца. Самкі капаюць норы глыбейшыя чым самцы, і ў іх плодзяць. Патомства сусла даволі многалічнае, бо даходзіць да 8 штук.

Губіць суслаў можна звычайным выкопываньнем, настаўляньнем пасткі процiў нары, а так-жа спосабамі хэмічнымі: укідываючы ў нару клакі ваты напоеныя двусеркавым вуглеродам, або затруваньнем дымнымі сьвечкамі фірмы „Азот" п. н. „Дусімыш".



## Падатак ад мукі і круп

Як ужо ўспамінала "Самапомач", 5 верасьня сёл. ува ўсей Польшчы ўвайшоў у сілу закон аб аплаце адумысловага падатку ад мукі (пшанічнай, жытняй і ячменнай) і круп (пшанічных і ячменных) змолатых у краёвых млынох, а такжа прывезеных з заграніцы. Ад падатку гэтага звольнена толькі мука й крупы празначаныя на прахарчаваньне сям'і прадуцэнта (самога земляроба) ці работніка земляробскага. Зямельным прадуцэнтам паводле гэтага закону ўважаецца: ўласьнік, арэндатар ці іншы ўжыткоўнік сельскай гаспадаркі (ня толькі земляробскай, але так-жа агародніцкай, гадаўлянай, мясной, пчалярскай, рыбнай), паложанай на абшары гміны сельскай; гаспадаркі на абшары гміны гарадзкой з гэтага права карыстаюць толькі тады, калі сама гаспадарка такая зьяўляецца галоўным жаралом утрыманьня. Собскім-жа спажыцьцём у гаспадарцы разумеецца такая колькасьць прадуктаў, якая патрэбна на прахарчаваньне ня толькі самага гаспадара, але так-жа ягонай сям'і і асоб што лічацца на ягоным утрыманьні.

Каб правесьці кантролю, хто колькі мукі і круп мае права ў млыне змалоць без аплачываньне падатку, заводзяць „Імянныя карты кантролі гаспадарскага мелива" (Imienne karty kontroli przemiału gospodarczego), якія за 10 грашоў выдаваць будзе солтыс раз у год. У гэту карту мельнік будзе ўпісываць кожную колькасьць выдадзенага мелива (мукі, круп), а карта сама будзе апраўдальным пасьведчаньнем на валаданьне такім меливам. Ясна згэтуль, што кожны павінен такую Карту старанна перахоўваць на выпадак скарбовай кантролі. Асабліва трэба перахоўваць Карту пры перавозе мелива. Пазычаньне гэткіх картаў, а так-жа пазычаньне, замена і тымбольш гандаль самым неападаткаваным меливам законам срога забаронены. Толькі ў млыне можна дастаўленае збожжа выменяць на муку ці крупы без аплаты падатку. Збожа на хлеб можна так-жа без аплаты выменяць у коопэратыўнай пякарні, але ня можна гэтага зрабіць у пякарні прыватнай.

Вышыню аплаты ад мелива негаспадарскага ўстанаўляе Міністр Скарбу ў паразумленьні з Міністрам Земляробства

## *Гаспадарская ўсячына*

— Прымусовую страхоўку засеваў проціў градабіцьця мае завесьці ў сябе Баўгарыя. Міністэрскі плян гэтае страхоўкі ўжо гатовы.

— У вокрузе Ліды напаткалі на вялікія запасы торфу: аблічаюць яго там на 2 мільярды тоннаў.

— Дзеці захварэлі на яшчур (прышчыцу) у аднэй вёсцы пад Беластокам. Сьцьверджана было, што хвароба гэта выступіла пасьля таго, як дзеці напіліся малака ад каровы хворае на яшчур.

— Плянтацыі кавонаў у Нясьвіжчыне, заложаныя сёлета на пробу, далі добрыя рэзультаты: кавоны выраслі да 10 і больш кілёграмаў. У наступным годзе плянтацыі гэтыя будуць пашыраны.

— Яйкі на вагу а не на штукі прадаваць будуць цяпер у Польшчы, гэткі выйшаў анагдай закон.

— Мядзьведзіца маладая паказалася ў Косаўшчыне на Палесьсі. Сяляне яе забілі каламі і за гэта сьпісаны на іх пратакол.

— На Лукіскім рынку ў Вільні былі заложаны г. зв. страганы. Усе яны зьліквідаваліся і вярнуўся стан, які быў прад двума гадамі.

— Павету Нарацкага ня будзе — гэтак пастанавіла анагдай Віленскае ваяводзтва. — Нарацкім меўся называцца павет Пастаўскі.

— Па заняцьці ў сакавіку сёл. Аўстрыі Нямеччынай паплыла туды хваля нямецкіх асаднікаў. Гэткі ўжо лёс краінаў падбітых.

— Па нарадзе ў Катовіцах мае ўзнавіцца ў Польшчы картэль фабрыкаў, якія вырабляюць дрот і цьвякі.

**Стандарызацыя гандлю ракамі.** 12.8.38 г. выйшаў загад Міністэрства Промыслу й Гандлю, паводле якога вывазам ракоў заграніцу будуць магчы займацца толькі тыя фірмы, або і прыватныя гаспадары, якія найпазьней да 10.9.38 г. запішуцца ў Міністэрстве пры пасярэдніцтве сваей Прам.-Гандлёвай Палаты. — З гэтай прычыны трэба зацеміць, што вываз ракоў з Віленшчыны і Навагрудчыны дасягае 80 прац. вывазу ракоў з цэлае Польшчы. А гэты апошні ў 1937 г. даў суму 145.000 зл. Завядзеньне парадку ў гандлю ракамі трэба толькі прывітаць. Горш аднак з тым, калі сягоньня ўжо „пракокі" кажуць, што з дагэтуль існуючых 15-цёх фірм, права вывозіць ракі атрымае найвышэй 7 фірмаў, — Чаму? Хіба-ж стандарызацыя не заводзіцца на тое, каб гандаль „абрэзываць", але на тое, каб яго падыймаць, расшыраць!

Pierasyłka apłačana ryčałtam



# Гаспадарская хроніка

**15.000 тыс. га тарфянішча ў Браслаўшчыне** асушыла мясцовая Водная Супалка. На абгаспадараваньне гэтых абшараў прызнаны нізкапрацэнтныя пазыкі, сплатныя праз пяць гадоў. — Тымчасам прапагуецца тут гадаваньне насеньня добравартасных траваў, якімі пасьля будуць гэтыя абшары абсейвацца.

**Элеватар у Горадні.** Коопэратыўны Саюз Земляробскі пачаў будаваць у Горадні вялікі элеватар на збожа. Элеватар гэты мае памясьціць на раз у сабе да 1000 тонаў (100 вагонаў) збожа, а кошт будовы аблічаюць на 200 тыс. зл. — Элеватары — гэта новамодныя склады на збожа; будуюцца яны пераважна як высокія будынкі, у каторых уся праца з перамяшчэньнем і чышчэньнем збожа адбываецца пры помачы машыновых прыспасабленьняў.

**Экспорт у Ўсходнюю Прусію.** Падчас апошняга гадавога Кірмашу ў Кенігсбэргу (Усх. Прусія) вяліся перагаворы немцаў з прадстаўнікамі Віленскай Гандлёва-Прамысловай Палаты аб магчымасьці вывазу ад нас у Ўсходнюю Прусію: лёну, ляннога сяменьня, насеньня збожа, лекарскіх зёлак, грыбоў, ягад і г. д.

**Шкляная гута ў Голбеі.** У Голбеі, Варапаеўскай гміны ёсьць шкляная гута, якая ў апошніх гадох стаяла нячыннай. Вот-жа гэта гута ўжо адноўлена і ў ёй пачалася анагдай праца нанова. Гута вырабляе аконнае шкло. Працуе там тымчасам 140 работнікаў.

**Новая фабрыка цэльлюлёзы.** — Цэльлюлёза гэта аснаўны матарыял у промыслах ткацкім, паперніцкім і матарыялаў выбуховых. Сама-ж цэльлюлёза вырабляецца з дрэва. Апошнім часам каля Горадні паўстала новая фабрыка цэльлюлёзы п. н. „Цэльлюлёза Наднёманская“.

**Дражджавы картэль зачынены.** Дня 14 жніўня сёл. управамоцнілася пастанова Міністра Промыслу й Гандлю аб зачыненьні картэлю дражджоўняў у Польшчы.

**Як трэба адрэсаваць пісьмы ў Літву.** На ўсіх пісьмах і розных пасылках высыланых у Літву, акрамя звычайнага адрэсу (літоўскага) трэба йшчэ дапісываць *„Litwa“* ці *„Lietuva“*, і ні ў якім разе ня можна пісаць „Litwa Kowieńska“, „Ziemia Kowieńska“, „Kowieńszczyzna“, „Żmudź“ і г.д. Усе паштовыя пасылкі з гэткімі няправільнымі прыпіскамі літоўская пошта зусім ня прыймае.

**IV-ты Паўночны Кірмаш у Вільні** адбудзецца ў міжчасе ад 17 верасьня да 2 кастрычніка і мае абыймаць аддзелы: промыслу й гандлю, земляробства, рамясла, гыгіены і здароўя; спэцыяльны аддзел гадаўляны: коні, хатнія птушкі, зьвяраты футраныя. Кірмаш адбудзецца на абшары 7 га пры вул. Легіонскай (за Вял. Пагулянкай). Для прыездных з паза Вільні, хто прад тым выкупіць сабе „Kartu uczestnictwa“, спуск за праезд на чыгунках 75 прац. „Карта“ гэткая дае права ўходу на сам Кірмаш і каштуе: для Віленшчыны, Ліды і Горадні 1 зл. 40 гр., для рэшты 2 зл. 20 гр. Дастаць „Карты“ можна ў канцэлярыі Кірмашоў: (Wilno, Legjonowa 1a) і ўва ўсіх аддзелах „Orbis'y“.

**Агранамічны Аддзел** Віленскага Ўнівэрсытэту прыймае запісы на першы год ад 12 да 22 верасьня. Пяршынство маюць тыя, хто выкажыцца гаспадарскай практыкай.

**Радіо-станцыя ў Баранавічах** пачала ўжо працаваць. Задачай ейнай ёсьць супроцьставіцца агітацыі савецкага радія з Менску і дзеля гэтага дагадваліся некаторыя людзі, што выканаўцы праграмы гэтае радіо-станцыі будуць шырака карыстацца беларускай мовай. Тымчасам і Баранавічы, так як і Вільня, працуюць толькі папольску.

„Самапомач“ выходзіць раз на месяц

ПАДПІСКА на „Самапомач“: на год — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — па 2 зл. за нумар на цэлы год за 5 штук 10 зл., а за 10 шт. — 15 зл. Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам“ на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Завальная 1. Рэдакцыя адчынена штодзень ад гадз. 13 да 15.

Рэдактар Інж. А. КЛІМОВІЧ. Выдавец: „БЕЛПРЭС“

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1.